*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 25 (564)** **3 ЛІПЕНЯ 2002 г.**

# 120 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы

*Янка Купала*

## *Незалежнасць*

Калі гавораць аб незалежнасці якой-небудзь новай дзяржавы, вызваленай вайной і рэвалюцыяй з-пад расейскага ярма, то гэта, здаецца, так і трэба, так і павінна быць. Незалежная Польшча, Літва, Украіна, Латвія і г. д. – усе яны маюць права на гэта, усіх іх можна прызнаць, нават можна і дапамагаць ці то фізічна, ці маральна, і незалежнасць гэтых дзяржаваў не выклікае ніякіх вялікіх спрэчак. Так ці іначай яны мусяць, яны будуць мець раней ці пазней саё дзяржаўнае незалежнае існаванне.

А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці... Тут вам цэлую кучу нагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць слухаючы. На ўсякую іншую незалежнасць кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую

Чаму гэта так?

Беларускі народ самабытны – гэта прызнаюць ужо нават і нашы праціўнікі з польскага ці расейскага лагеру. Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю – маю тут на ўвазе Вялікае Літоўска-Беларускае княства. Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей, ну хоць бы як палажэнне Швейцарыі. Мы крыху адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора, дык чаму ж так страшна наша незалежнасць?

А гэта вось чаму.

Наша незалежнасць соллю ўваччу для незалежнасці нашых суседак – Польшчы і Расеі, бо і адна, і другая хацелі б нашу незалежнасць утапіць у лыжцы вады сваёй незалежнасці.

Для адбудавання вялікай Польшчы "ад мора да мора" трэба пераступіць Беларусь; для адбудавання вялікай Расеі ад Белага да Чорнага мора таксама трэба растаптаць Беларусь.

Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наогул, калі не цалкам прылучыць яе да адной з суседніх дзяржаваў, то разрэзаць напалавіну, але так зрабіць, каб яе не было і звання.

А Беларусь, як і кожная іншая дзяржава, мае права і даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі.

Што яна павінна такой стацца, за гэга гавораць яе мінуўшчына, яе цяпершчына.

Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было і ёсць найцяжэй, як усім іншым народам, і ўсё дзякуючы няшчаснай залежнасці ад нашых мацнейшых суседзяў. Але разбяром па парадку.

Пасля вуніі з Польшчай Вялікага Літоўска-Беларускага княства, калі беларуская культура высока трымала свой сцяг у родным краі, - гэта культура пачала выціскацца польскім панаваннем. Беларускае баярства, за польскія шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца ўсяго свайго роднага, беларускага і перакульвацца на старану чужую, польскую. Забылася баярства на звычай і абычай беларускі, на сваю гісторыю, мову, літаратуру. Дзе больш званілі золатам, там вышэйшыя станы тагачаснага грамадзянства і служылі, і прадавалі сябе, свой народ, сваю Бацькаўшчыну.

Так было і так ёсць заўсёды. Вышэйшыя, багацейшыя станы грамадзянства за бляск золата ідуць да дужых, пакідаючы сваіх брацця слабейшых на здзек і паняверку.

І зрабілася на Беларусі пасля вуніі з Польшчай тое, чаго і трэба было чакаць.

Масы, народ земляробны, засталіся беларусамі, а іх баярства, вышэйшыя станы сталіся палякамі. Такім чынам, двор сам па сабе як бы аддзяліўся ад вёскі. Беларускі пан зрабіўся чужым для беларускага селяніна. Беларускае баярства сталася чужацкім на сваёй беларускай зямлі. Тыя самыя людзі, толькі багацейшыя, пачалі гаварыць рознымі мовамі, і сягоння яны паміж сабой нічога супольнага не маюць. Двор глядзіць на селяніна, як на "люд рускі", як на быдла, над каторым можна толькі стаяць з бізуном аканомскім, а вёска глядзіць на пана, як на прыблуду з чужацкай стараны, які захапіў яго,скляніна, зямлю ды яшчэ здзекуецца над ім самім.

Пасля вуніі з Польшчай прыйшла на Беларусь апека маскоўская. Цары наглалі ўсялякіх чыноў, запрудзілі край усялякай маскоўскай чорнай галытнёй, якая тут толькі аб адншым дбала, каб як цяплей пагрэць рукі ды захапіць "маёнтак". Але аб беларусу-селяніне, аб беларусу-грамадзяніне ніхто і не падумаў.

Прыбыла толькі да панскага бізуна чыноўніцка-жандармская нагайка.

Залежнасць ад Польшчы змянілася залежнасцю ад Масквы, а на лепшае нічога не змянілася. Маскоўскі чыноўнік, таксама, як польскі пан, глядзеў на беларуса як на "скот" (той – як на "быдла"). І ніхто з гэтых апекуноў нават і пальцам не кіўнуў у той бок, каб палепшыць жыццё беларуса, каб падбаць аб яго родным краю.

І адны, і другія глядзелі скоса на Беларусь, глядзелі то як на "крэсы", то як на "окраину", і больш нічога.

А беларус стаганаў і стагнаў.

З гэтага мы бачым, бачым з практыкі, вынесенай на сваёй скуры, што залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні была, бокам залежнаму народу вылазе.

І вось толькі адна поўная дзяржаўная нежалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.

Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі. Зямлі маем шмат, лесу яшчэ болей, маем вялікія рэкі, азёры, чыгункі, багатыя месты, а ў іх фабрыкі, заводы ды і шмат іншага добра. Да таго ж, на лік мы народ вялікі – каля 12 мільёнаў. Гэта не тое, что якая-небудзь там Швейцарыя, Данія ці Грэцыя!

Дык чаму ж нам, браты беларусы, не дамагацца сваёй дзяржаўнай незалежнасці?

Мы павінны яе дамагацца і мірна, і з аружжам у руках, бо жыццё не чакае, і ворагі нашы не дрэмлюць.

*1919 г.*



## Ворагам Беларушчыны

*Чаго вам хочацца, панове?*
*Які вас выклікаў прымус*
*Забіць трывогу аб той мове,*
*Якой азваўся беларус?*

*Чаму вам дзіка яго мова?*
*Паверце, вашай ён не ўкраў,*
*Сваё ён толькі ўспомніў слова,*
*З якім радзіўся, падрастаў.*

*Цяпер і вы загаварылі,*
*З апекай выйшлі, як з зямлі;*
*А што ж дагэтуль вы рабілі?*
*А дзе ж дагэтуль вы былі?*

*Ваш брат і цёмны, і галодны;*
*Хацінка свой зжывае век;*
*І век не знаў ён дум свабодных,*
*І крыўдзіў свой брат – чалавек*

*Вам страшна нашай слёзнай песні*
*І жальбы страшна вам глухой?*
*Вам жудка сонца напрадвесні?*
*Мілей вам холад з цемнатой?*

*А што ж вам беларус такога*
*Пасмеў зрабіць, пасмеў, сказаць?*
*Эх, трэба ўчыць яшчэ вас многа,*
*Як свайго брата шанаваць!*

*Эх, кіньце крыўдамі карміцца, -*
*Кожны народ сам сабе пан;*
*І беларус можа змясціцца*
*Ў сям'і нялічанай славян?*

*Напасцю, лаянкай напраснай*
*Грудзей не варта мазаліць!*
*Не пагасіць вам праўды яснай:*
*Жыў беларус і будзе жыць!*

*Не столькі "хамскія" натуры*
*На карках вынеслі сваіх!*
*І свіст даносчыкаў пануры,*
*Паверце, не запудзіць іх!*

*К свабодзе, роўнасці і знанню*
*Мы працярэбім сабе след!*
*І будзе ўнукаў панаванне*
*Там, дзе сягоння плача дзед!*
*1907 г.*

## Расклад Купалаўскіх дзён 4-7 ліпеня 2002 г.

**4-5 ліпеня.** VI Міжнародныя Купалаўскія чытанні - навуковая канферэнцыя "Янка Купала і еўрапейскі літаратурны працэс. ***Літаратурны музей Янкі Купалы.*** **Пачатак а 10-й гадзіне.**

**5 ліпеня.** Адкрыццё рэтраспектыўнай выставы з фондаў музея "Мастацкая Купаліяна XX стагоддзя". ***Музей сучаснага мастацтва, Менск, пр. Ф. Скарыны, 47.*** **Пачатак а 16-й гадзіне.**

**5 ліпеня.** Урачыстая вечарына, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. ***Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы*.** **Пачатак а 18-гадзіне.**

**6 ліпеня**. Рэспубліканскае свята паэзіі. ***Вязынка.*** **Пачатак а 11-й гадзіне.**

**7 ліпеня.** Музычна-паэтычны зварот да Купалы ***ля помніка народнаму паэту Беларусі ў Менску.*** **Пачатак а 18-й гадзіне.**

# ЯК "ДУДКА" "ЖАЛЕЙКУ" ПАГУКАЛА...

Францішак Багушэвіч і Янка Купала... Два найдарагія для нас імёны!... З пачуццём глыбокага грамадзянскага ўсведамлення мы заўсёды вымаўляем іх. І невыпадкова. Янка Купала і Францішак Багушэвіч – узор служэння роднаму народу, увасабленне лепшых яго рысаў. Іх самабытныя постаці сышліся не толькі на літаратурных уплывах – старэйшага на малодшага, - але і на аднолькавым разуменні гістарычнай місіі свайго народу. Гэтыя песняры і жылі пэўны час у адну эпоху. Калі завяршаўся жыццёвы круг Францішка Багушэвіча, Купалу было ужо блізка васемнаццаць і, безумоўна, калі б тагачаснае літаратурнае жыццё асвятлялася гэтак жа шырока, як зараз, Купала мог бы даведацца пра Багушэвіча яшчэ пры яго ным жыцці. Сустрэцца яшчэ з жывым паэтам.

Прасторава і ў часе гэта было магчыма. Аднак такая сустрэча, на жаль, не адбылася. Упершыню Янка Купала пачуў пра Багушэвіча на зломе 1904 ці пачатку 1905 гадоў. У гэтую пару ён працаваў чорнарабочым на бровары. Знаёмства з Багушэвічавай творчасцю скаланула ўсю душу маладога паэта. У сваіх "аўтабіяграфічных лістах" Янка Купала напіша пра гэта так: "*Але вось трапляюцца мне ў 1904 або ў пачатку 1905 года рэвалюцыйныя пракламацыі на беларускай мове і кніжкі "Дудка Беларуская"... і ўсё маё польскае пісанне пайшло на нішто. З гэтага часу я пачынаю пісаць толькі на беларускай мове*".

Скупое, але вельмі яскравае сведчанне. Сёння няцяжка ўявіць, што перажыў малады Купала ад чытання Багушэвічавых твораў. Асабліва, мабыць, узрушыла яго прадмова да ("Дудкі Беларускай". Яна перш за ўсё адкрыла Купалу самога сябе, падказала юнаку, хто ён ёсць на сваёй зямлі, а за гэтым пайшоў ужо і пошук свайго слова, свайго голасу. Праўда, напачатку Купалава песня яшчэ часта тэматычна дый вобразнай структурай перагукваецца з Багушэвічавай. Згадаем верш "Дурны мужык, як варона" і Купалаў "Мужык". Нават неспрактыкаванае вока лёгка вызначыць шмат агульнага ў згаданых творах. Агульнасць гэтая і ў самім пафасе, і паэтычнай стылістыцы, і ў самой ідэі. Можна яшчэ доўжыць спіс твораў абодвух паэтаў, якія перагукваюцца сваёй тэматыкай, сваім светапоглядам. Гэта найперш тыя творы, галоўны герой якіх селянін, парагнаны мужык-беларус. У Багушэвіча: "Не цурайся", "Гора", "Мая хата", "Калыханка". Адпаведна ў Купалы: "Пашкадуй мужыка", "Мая доля", "Над калыскай" – і таксама "Мая хатка". Нават сваімі назвамі гэтыя творы блізкія адзін да аднаго.

Гэтая ж ідэйная блізкасць і агульнасць матываў з Багушэвічавымі творамі адчуваецца і ў польскіх Купалавых вершах. Янка Купала, як вядома, пачынаў пісаць свае творы на польская мове. Згадаем Купалаў верш "Беларус" і Багушэвічаву "Песню" (Чаго бяжыш, мужычок?"), Купалаў "Хто з вас, другі, мае брацця..." і Багушэвічаў "Мая дудка".

Шмат агульнага ў гэтых паэтаў і ў паходжанні псеўданімаў, і назвах паэтычных зборнікаў, але агульнасць гэтая нішто іншае, як пераемнасць, творчая еднасць малодшага паэта з старэйшым. Купала адкрыта засвойваў творчыя дасягненні свайго папярэдніка, развіваў іх, паглыбляў. Ён нібы гістарычна падхапіў мастацкую практыку Ф. Багушэвіча, падхапіў яго ідэі і панёс іх далей да пераможнага канца, пакуль мужык-беларус не абудзіцца ад векавога сну, не адчуў сябе чалавекам. Нездарма ж, мусіць, Купалавы і Багушэвічавы творы выклікалі аднолькавы гнеў і абурэнней незычліўцаў нашага народу. Як вядома, Багушэвічавы і Купалавы кнігі патрапілі ў адзін год (1908) пад арышт, а пасля і на судовы разгляд. Іх нават афармілі напачатку ў адзін дакумент. Праўда, Янку Купалу неяк усё-такі ўдалося ўхіліцца ад суда. Багушэвічавы ж творы судзілі, па ўсіх правілах, па ўсіх тагачасных законах, нават з адвакатам. Быў на тым судзе і Янка Купала. Ён не мог не пайсці на яго: судзілі іх абодвух, судзілі вольнае беларускае слова. Янка Купала, паводле слоў. Я. Хлябацэвіча, сядзеў на хорах, сядзеў разам з публікай і кожнае слова абвінаваўцы пра Багушэвічавы творы прымаў шчымліва, з абурэннем, з прыкушанай губою. Суд гэты, мабыць, і чыніўся, каб паслабіць дух маладой беларускай нацыі, яе адданых сыноў. Але дарэмныя былі старанні царскіх чыноўнікаў і іх слугаў. Купала выйшаў з таго суда яшчэ больш загартаваны. Слова яго загучала яшчэ больш палымяна, яшчэ больш свядома, ў рэчышчы думак сваіх і свайго настаўніка. Праўда, чарнасоценцы і шавіністы розных масцей яшчэ не раз спрабавалі шальмаваць, зневажаць светлыя імёны гэтых паэтаў. Вось адзін цікавы выпадак ... Пецярбургскі "Альманах – каляндар для ўсіх" на 1910 год змясціў на сваіх старонках Багушэвічаў партрэт, але за подпісам, што гэта Янка Купала. Малады паэт тады абурыўся, напісаў свой пратэст у газэту "Новую Русь". І зрабіў правільна. Але было ў гэтай абмылцы нешта сімвалічнае і шматзначнае.

У дакастрычніцку пару творы Янкі Купалы і Ф. Багушэвіча чытачы, успрыймалі як нешта адно цэлае і непадзельнае, У сваіх лістах у "Нашу Ніву" яны скрозь ставілі гэтыя прозвішчы побач, прасілі, менавіта іх кніжак, бо надта ж падабаюцца.



Янка Купала неаднойчы выказваў свае ўражанні пра Багушэвічавы творы, і кожнага разу ён вылучаў у гэтых згадках штосьці новае, адметнае. Так 11 студзеня 1920 года паэт пісаў, што Багушэвічавы творы пераканалі яго, што кніжкі на беларускай мове не горшыя за іншыя, а нават лепшыя, таму што ў іх гаварылася пра блізкіх яму людзей, з якімі ён разам фізічна працаваў.

Была ў Янкі Купалы і яшчэ адна сустрэча з Багушэвічам Адбылася яна, мабыць, у 1912 годзе. Паэт разам з Уладзіславай Францаўнай, сваёй паплечніцай і сяброўкай, вырашыў наведаць Багушэвічавы мясціны, прайсціся яго сцежкамі. Гэта было іхняе даўняе жаданне. Ім даўно карцела зірнуць на той кут, у якім гадаваўся і рос пясняр, мужнеў, набіраўся паэтычнай і грамадзянскай моцы. Хацелася спазнаць, адкуль вытокі мужнасці гэтага волата, які адважыўся сказаць заступнае слова за селяніна, сказаць яго моваю.

Надахвоціла да гэтай вандроўкі Янку Купалу, мусіць, і Уладзіслава Францаўна. Яна, маленькаю дзяўчынкаю, бачыла песняра. Ён прыязджаў да іх у Вішнева на паляванне, а затым ужо ў Вільні яна пасябравала з Багушэвічавай пляменніцай Юляй Радзевіч.

А тут яшчэ адна нагода. Грамадка віленскай інтэлегенцыі рыхтавалася ўшанаваць памяць Уладзіслава Сыракомлі, набліжалася пяцідзесятая гадавіна з дня яго смерці. У задуме было наведаць паэтаву магілу ў Вільні, з'ездзіць у Барэйкаўшчыну. Разам з іншымі пасхаў на паэтаву сядзібу і Янка Купала. Быў у той віленскай грамадцы сучаснік і сябра Фр. Багушэвіча Напалеон Роўба. Па дарозе ў Барэйкаўшчыну ён шмат расказваў маладзейшым пра Фр. Багушэвіча, пра свае сустрэчы з ім. Успаміналася Багушэвічава імя ў самой Барэйкаўшчыне. У1897 годзе Фр. Багушэвіч прыязджаў сюды. клапаціўся пра Сыракомлеву сядзібу. Усё гэта і падагрэла Купалу прайсціся сцежкамі аўтара "Дудкі Беларускай".

Пачалі з Жупранаў. У маўклівым роздуме пастаялі ля паэтавай магілы, на якой тады стаяў высокі дубовы крыж з датамі жыцця: 1848-1900. Успомнілі віленскі суд 1910 года. А з ім -- смяхотны загад на арышт Багушэвіча ў 1908 годзе.

Затым паклалі на магілу кветкі і пеша, самым блізкім шляхам, праз Замасцяны, пайшлі праз лес, - гэтую дарогу ім падказалі жупранцы, - накіраваліся ў Кушляны. Пра гэта Уладзіслава Францаўна напіша: *"Мы з ім наведалі месца, дзе жыў Францішак Багушэвіч, у Ашмянскім павеце, каля мястэчка Жупраны".*

Цяжка цяпер сказаць, якія думкі хадзілі ў іх галовах на песняровай сядзібе. Ўладзіслава Францаўна не пакінула нам больш падрабязную апісаную вандроўку ў Кушляны. Пра гэта можна толькі пашкадаваць. Але зразумела адно: выйшлі яны на віленскі гасцінец з Багушэвічавай сядзібы з глыбокім перакананнем, што свой жыццёвы шлях абралі правільна, што трэба яшчэ больш самаахвярна служыць свайму народу. Былі яны ў тую пару зусім яшчэ маладыя, несямейныя. Але абодвух іх моцна яднала агульнасць інтарэсаў. Гэтая агульнасць і прывяла іх разам на Багушэвічаву сядзібу.

Пасля яшчэ не раз прывядзе Янку Купалу яго шчырае сэрца на паэтаву магілу. Апошні раз ён быў тут у чэрвені 1941 года, разам з Якубам Коласам, за некалькі дзён да пачатку вайны, па дарозе ў Вільню.

Пра гэта згадвае вядомы грамадскі і партыйны дзеяч Цімох Гарбуноў, які разам з іншымі тым разам ездзіў у Вільню.

Янка Купала заўсёды шанаваў Багушэвічаў талент. Ён, паводле слоў украінскага паэта Паўло Тычыны, у сваёй дакастрычніцкай творчасці, *"прытуліўшы да вуснаў сваіх беларускую дудку Багушэвіча,.. увесь час прыслухоўваўся, а якую б яго ноту узяць, каб яна загучала яшчэ мацней за Багушэвічаву ноту".*

Менавіта Багушэвічавы кніжкі падказалі Купалу, што ён - беларус і адзінае яго прызванне – служыць свайму народу ўсімі сіламі душы.

Такая была творчая лучнасць двух нашых песняроў, якія падслухалі голас народа і ад імя яго на ўвесь свет апавясцілі пра неадольнае жаданне беларусаў людзьмі звацца і заняць пачэсны пасад між народамі.

Гэтую творчую і духоўную повязь Янкі Купалы з Францішкам Багушэвічам адзначаюць і рупліўцы музея народнага песняра. Два гады таму з нагоды стапяцідзесятай гадавіны з дня народзінаў аўтара "Дудкі Беларускай" яны нават стварылі пастаянную экспазіцыю "Францішак Багушэвіч і Янка Купала". Лейтматыў гэтай экспазіцыі – "Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога дадзеная." Родная мова была найпершым клопатам і трывогай абодвух песняроў-прарокаў. Усе мы памятаем слынную Багушэвічаву прадмову да "Дудкі Беларускай" У ёй Мацей Бурачок усяму цёмнаму люду дадзець, што наша мова для нас святая, бо яна нам ад бога даная, што яна такая ж панская, такая ж людская, як і французская альбо нямецкая альбо іншая якая, што мова – гэта адзежа душа, пакуль жыве душа – жыве і чалавек, жыве і народ. *"Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!"*

Далей Макей Бурачок прызнаецца, што і ён сам колісь думаў, што наша мова "мужыцкая" і толькі ўсяго, але вось ён натрапіў на старыя паперы *"па дзвесце, па трыста гадоў, тамы пісаных у нашай зямлі, пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысцюсенькай: як бы от цяпер пісалася"*, і пераканаўся: *"яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю!".*

Не менш пранікнёнае слова пра родную мову і ў Янкі Купалы. Згадаіма колькі купалавых думак з ягонага публіцыстычнага звароту "Ці маем мы права выракацца роднай мовы".

*"... Заходзіць пытанне: чаму ж так трымаліся беларусы ўсяго свайго роднага? Чаму, калі мо, каторы і навучыўся чагось чужога ў чужой школе ці так у чужыне, - дома ўсяго чыста забываўся? Ці ж мы мелі кароткую памяць, ці не любілі прасветы? Адказ тут, як не круці мазгамі, адзін: склад душы беларуса, яго думак, звычаяў, пагляду на жыццё быў свой, і была ўся тая мова родная, узгадаваўшая яго цэлыя тысячы лет; гэта душа яго душы – мова зраслася з ім, як зрастаецца са сваім каранем дзерава: падкапайцеся пад дзерава, абсячыце да звання яго карань – дзерава завяне, засохне, перастане жыць. Беларус часта мо, і не здаваў сабе справы, чаму ён так трымаецца сваёй гутаркі, але не трымацца яе не мог: выракаючыся мовы сваёй, ён бы мусіў выракся самога сябе, выкрывіць пошусна сваю душу, выракаючыся, мусіў бы іці проці ўсяго, што паказвае адметнасць чалавека перад скацінай..."*

Толькі да каменнага серца не можа дайсці гэтая пранікнёная паэтава развага пра нашу мову.

Францішак Багушэвіч і Янка Купала разам з Якубам Коласам, Максімам Багдановічам – гэта нашы тытаны, святыні. Менавіта на іх і з імі павінны мы маліцца за Беларусь, беларускі народ, бо пакуль будзе граць Багушэвічава "Дудка" і пакліканая ёй Купалава "Жалейка", дагэтуль будзе жыць і наша Беларусь. І ніякія недавукі і невукі ды розныя іншыя шызафранічна хворыя людзі пры дзяржаўных пасадах не змогуць зацьміць веліч нашае мовы, як бы яны брыдка не плявузгалі на яе. Гэтага не дазволяць ніколі тытаны нашае нацыянальнай думкі, сярод якіх і два такія волаты, як Францішак Багушэвіч і Янка Купала. Мы найперш заўсёды будзем душою і сэрцам кіравацца іхнім разуменнем роднай мовы. Гэтае разуменне высакароднае, стваральнае, праўдзівае, прыроднае, узнёслае, пашанотнае. У іхнім разуменні клопат пра душу беларуса, чаго гэтак не стае сённяшнім урадоўцам. Гэтых парыванняў мы будзем і надалей трымацца. "Дудка" і "Жалейка" мусяць усё ж калі-небудзь зачапіць і каменныя сэрца, разладжаныя мазгі чыноўніцтва Рэспублікі Беларусь. Гэтак не можа быць, як ёсць! Павінна быць так, як гаворыць Багушэвічава "Дудка" ды Купалава "Жалейка"!

***Уладзімір Содаль.***





# Ці маем мы права выракацца роднай мовы?

Калі ўгледзецца ў навакольнае жыццё, калі ўдумацца ва ўсе яго вялікія праявы, то міжволі прыходзім да пераканання, што сама па сабе думка "жыць на свеце" вельмі добрая, але людзі часта гатае жыццё паганяць, накладаючы на яго непатрэбныя путы, ацямраючы яго адвечныя праўды і законы.

Самы важнейшы і непраломны закон жыцця - гэта людская мова, праз каторую чалавек стаў най-вышэй ад усякага стварэння пад сонцам. Сягоння мы бачым на свае вочы, як нешчаслівы той чалавек, каторы ўрадзіўся глуханямым, з каторым толькі можам разгаварыцца знакамі, на мігі; але і гэтакі чалавек мае душу і ўмее думаць так, як і мы думаем, і, калі яму на мігі пакажам не так, як патрэбна даную рэч выразіць, - гэты нямы нас не зразумее, і ўсё чыста пойме, калі мы не будзем перад ім крывіць душой.

Але жыццё не стварыла на свеце ўсяго чыста пад адну мерку, пад адзін калібр: не зраўняла яго лесу, не зраўняла птушак і звяроў, а ў вадзе рыб, не зраўняла яно і людзей; дало толькі кожнай жывучай істоце вялікае права па-свойму развівацца, не сыходзіць з прастай, раз назначанай пуціны.

Рассеяўшы людзей па абшырнай кулі земскай, жыццё гэтым самым паставіла іх у адменныя варункі бытавання. Патварыліся народы, гасударствы, а з імі свае абычаі, свае парадкі, свае думкі, і, разумеецца, у кожнага такога народа свая родная мова. Дайсці да гэткага ладу-парадку на свеце, які мы цяпер бачым, патрэбала цэлыя дзесяткі тысячаў лет, а мо і мільёнаў; тысячы, а мо і мільёны лет ткала жыццё сваю прыгожую на зямлі тканіну.

Сягоння налічваецца больш тысячы ўсякіх народнасцяў; кожная з гэтых народнасцяў жыве сваімі асобеннымі нацыянальнымі праявамі; кожная народнасць састаўляе як бы, так сказаць, адну вялізную сям'ю-радню, рознячыся складам сваім ад суседняй такой народнасці-сям'і. І адлічваем мы кожны такі адзін народ ад другога ўсё той жа яго адвечнай уласнай мовай, той мовай, якую вякі ўсвянцілі і ўкаранілі ў ім, на якой ён і яго продкі, з самага пачатку свайго паяўлення на зямлі, узраслі і ўзгадаваліся.

Скажа хто-небудзь: хай бы была адна мова на свеце, бо і праўда - нашто іх стольki... Яно б то можа было і добра, а мо і не саўсім. Дай мы, каб было аднаго толькі гатунку дзерава або аднаго толькі гатунку жывёліна ці збажына, то напэўна лёгка здагадацца, што на свеце было бы далёка не так прыгожа, як цяпер ёсць. Але калі дзерава ці жывёліна ёсць толькі паверхнаснай аздобай зямлі, то ***мова людзей ёсць як бы цэнтрам гэтага жыцця, яго душой, яго ўнутранай аздобай.***

Для мовы, для гэтай выразіцелькі душы і думак чалавека, не патрэбна ні скіпетраў, ні каронаў, як не патрэбна для сонца якога-небудзь яшчэ пазалачонага абруча, рамак. Сонца само па сабе адна аздобнасць - і золата, і брыльянт. Таксама і мова якога-небудзь народа ёсць для яго і скіпетрам, і каронай, яго нічым не апаганенай аздабнасцю.

Ёсць яшчэ народы, у каторых і з роду, бадай, ці была свая бацькаўшчына, як напрыклад, цыганы, але мову сваю мелі, маюць, і згіне яна ў іх толькі тады, як звяліся бы яны самі на свеце, а зводзіцца ж толькі завод якой-небудзь скаціны.

Сам народ можа пад-пасці пад чужое мацнейшае ўладарства і часам цэлыя вякі насіць на сабе путы няволі але ніколі ў заваяваным ці забраным народзе не можна выдзерці яго душы і яго роднага слова. Гэта апошняе яму матка, кормлючы дзіцянё сваёй грудзёй, перадае, як найсвяцейшы скарб разам са сваім пракляццем таму дзіцяці, каторае, вырасшы, захацела б вырачыся роднага слова, бо гэтым самым выракалася б і роднай маткі... Як бы ... недарэчна выглядала, каб хто над дамавінай свайго роднага пачаў галасіць, прыгаворваць не ў сваёй, а ў чужой мове: або каб на вяселлі шлюбоўнікам пачалі пяяць кабеты чужыя, незразумелыя песні. А вось глянем яшчэ хоць бы на крылатыя стварэнні: ці ж не смешна б нам паказалася, каб салавейка пачаў кукарэкаць па-петушынаму, а певень пачаў кукаваць, як зязюля. Можа толькі салавейка яшчэ прыгажэйшыя выдумваць таны ў сваёй музыцы-спеве, а певень яшчэ акуратней пачынаць сваё кукарэку апоўначы... Ужо так жыццё ад першага паўстання на зямлі быту дало можнасць развівацца кожнай жывучай натуры толькі ў сваім кірунку ды ў вечнай гармоніі з усёй прыродай навакольнай.

Цяпер спынімся на нашай беларускай мове. Нам кажуць, і мы самі часта гэтаму патураем, што мова беларуская простая. А па-мойму: не і дзякаваць богу, абы не крывая. Але разбяромся ў гэтым лепей. Яшчэ за часу, некалькі соцень лет таму назад, калі Беларусь жыла сваім незалежным жыццём, мела сваіх князёў, сваё веча, ці маглі тады беларусы іначай гаварыць, як не па-беларуску? Ці маглі беларускія земляробы, сабраўшыся на веча ці на вайну проці чужынцаў, ламаць сабе языкі чужой, незразумелай для іх гутаркай? Адказ на гэта хіба кожнаму падыктуе свой розум. Пасля, калі падпала Беларусь пад уладарства Літвы, што выйшла. "Простая" беларуская мова закасавала "крывую" сваіх заваявацеляў, і літоўскія законы пішуцца па-беларуску; слова нявольніка становіцца ўрадавым словам пабедніка. А мова наша была і тады не інакшая, - была таксама простая, але простая ў значэнні – не крывая, дарэчная, не заменная для агулу, для свайго народа. Літоўскі тагачасны ўрад (правіцельства) са сваімі князямі меў – як то кажуць – усе клёпкі ў галаве і не ўзаконіваў бы мовы забранага народа, каб не бачыў у гэтым карысці для сябе і для падбітых зямель.

Калі з часам Літоўска-Беларускае княства злучылася з Польшчай і беларускую мову стала з урада выціскаць польская, то гэта нічуць не даказвае, што яе прызналі горшай ад польскай. Тут была толькі, ні болей - ні меней, сіла кулака, як цяпер часта робяць іншыя гасударствы. Польшча была дужэй, значыць, і старалася гэтую сваю моц паказаць, заводзячы свае парадкі ў прылучаных да яе землях. І тут выйшла тое, што і сягоння спатыкаецца: беларускія баяры і багацейшыя гаражаны, так называная "знаць", каб заслужыцца на ласку ў польскім урадзе, мець цёпленькае і выгаднае месца, пачалі скідаць з сябе свае родныя аўчынкі і напінаць чужую падробленую, нашываную скуру. Адно, народ (сяляне і местачкоўцы) за прыхваснямі дворнымі не пайшоў: ён цвёрда трымаўся ўсяго таго, што яму пераказалі на божай пасцелі дзяды і прадзеды, і не зацёр сваёй асобенасці, свайго нацыянальнага духу, застаўся да сягоняшняга дня тым, чым быў... хоць і валок на сабе ярмо кольківяковага чужога ўладарства. Не без таго, што і пасля паяўляліся між беларусамі рэнегаты, здрайцы свайго краю і народа, але на іх не звяртана ўвагі, як не звяртаецца на ўсякага роду адшчапенцаў, затраціўшых воблік і падабенства божае.

Заходзіць пытанне: чаму ж так трымаліся беларусы ўсяго свайго роднага? Чаму, калі мо, каторы і навучыўся чагось чужога ў чужой школе ці так у чужыне, - дома ўсяго чыста забываўся? Ці ж мы мелі кароткую памяць, ці не любілі прасветы? Адказ тут, як не круці мазгамі, адзін: склад душы беларуса, яго думак, звычаяў, поглядаў на жыццё быў свой, і была ўся тая мова родная, узгадаваўшая яго цэлыя тысячы лет; гэта душа яго душы – мова зраслася з ім, як зрастаецца са сваім коранем дзерава: падкапайцеся пад дзерава, абсячыце дазвання яго корань – дзерава завяне, засохне, перастане жыць. Беларус часта мо, і не здаваў сабе справы, чаму ён так трымаецца сваёй гутаркі, але не трымацца яе не мог: выракаючыся мовы сваёй, ён бы мусіў вырачыся самога сябе, выкрывіць пошусна сваю душу, выракаючыся, мусіў бы ісці проці ўсяго, што паказвае адменнасць чалавека перад скацінай.

Усё ж колькісотлетняя паняверка, валачэнне ярма чужога ўладарства на сваім набалелым карку не прайшло для нас без ніякага знаку: яно ацямрыла і затрымала доўгія вякі наша культурнае і нацыянальнае развіццё, пакідаючы нам свае вучыльні і свае "языкі", увялічыла нехаць да ведаў, да прасветы, да прызвання вялікіх думак людзей навукі і ідэі; засталіся мы на самым апошнім месцы, ніжэй парога, паміж усіх чыста славянскіх народаў; засталіся мы, як аблудныя авечкі, без пуцця, без веры ў новую светлую будучыню. Але ж такі засталіся і мы самі, як народ, як нацыя, і засталася пры нас наша простая родная мова, праз якую ўсе знаюць, знае свет, што мы не прыблуды якія, а колькімільённы народ - беларусы, што засяляюць сваю адвечную Бацькаўшчыну - Беларусь.

Ачуняць, глянуць па-арлінаму смела, дружна на свет белы, загаманіць праўдай цэламу свету гучна, свабодна мы зможам толькі тады, калі пад саламянымі стрэхамі нашых хат зойме пачэснае месца наша родная беларуская кніжка. Праз памяць на магільныя наспы і крыжы, пад якімі бясчасна змарнеўшыя ў няволі спяць нашы дзяды і прадзеды, праз памяць на сваіх матак, каторыя нас сваёй грудзёй ускармілі, - выракацца роднай мовы не маем права.

*Янка Купала.*
*1910 г.*

*Янка Купала*

## Беларушчына



*Сотні лет,*
*непрыяцелем-братам прыбітая,*
*Зарастаючы зеллем чужым,*
*як лазой сенажаць,*
*Ты ляжала,*
*няпамяці пылам пакрытая,*
*А народ твой быў змушан*
*маўчаць і табой пагарджаць.*

*І круцілі цябе, як каму падабалася,*
*Кожны строіў, наводзіў цябе*
*на свой строй, на свай лад;*
*Адно часам жальба,*
*як кляцьба, разлягалася*
*Ды нячутай ляцела, ўміраючы,*
*ў грудзі назад.*

*Спаў народ, і ты спала,*
*і ворагі верылі,*
*Што ніхто не разбудзіць цябе,*
*што заснула навек.*
*І дзялілі цябе, ўсімі мерамі мерылі,*
*Што памерла ўжо ты, - не адзін так казаў чалавек.*

*Час ішоў. К жыццю новаму клікі пачуліся;*
*Ўсе народы паўсталі на бітву за права свае.*
*Ты – як спала – ўскрасла, тває дзеці прачнуліся,*
*Твой народ, ты сама ўсталі новае строіць жыццё.*

*І цяпер хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны,*
*Хоць пад права тває падрываецца шмат хто, як крот,-*
*Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына:*
*Зразумеў і успомніў цябе твой мільённы народ.*

*Сціхнуць віхры, заціхне пара непагодная,*
*Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыццю;*
*Панясуцца, як звон, песні вольныя, родныя,*
*Апяваючы долю, нядолю народа, тваю.*

*1908 г.*

## Апекунам

І трудна ж, трудна,
знаць, прыйшлося
Шмялям струхлеўшага дупля,
Як наша слова праняслося,
Як наша дрогнула зямля!

Загаманілі, зашыпелі
Вось так, па-свойму "вовсю".
Яшчэ паказ – пазнаць на дзеле
Ваўка, і ліса, і змяю.

Няварта гэтк распінацца,
Мае шмялькі, ў чужым вуллі.
Зацесна вам у нашай хатцы –
Гайда! Туды, адкуль прыйшлі!

Што вы прынеслі? Што?..
Загляньце
Да беларуса сумных хат...
З тых самых лык пляце ён лапці,
Якія плёў сто год назад.

Вы песню хочаце спаганіць,
Якой адвечнасць не змагла,
І свой паступак затуманіць
Брахнёй - з дабра, а не са зла!...

Мы верым, што жывога слова
Не пойме цёмны ваш хаўрус,
Але у дружбы вашай сковы
Ўжо не паверыць беларус.

Як трутні, ласыя на соты,
Вы к нам прыйшлі ў гадзіну бед;
Чуць толькі сталі да работы,
А груганам гатоў абед.

Цямніц і віселькняў асновы,
Слугі нагайкі і штыха,
Сумленне, край прадаць гатовы
За бліск нагруднага значка.

І з думкай носячысь шалёнай,
Вы! вы! жадаеце з людзей,
Каб вам паверылі мільёны,
Каб вам карысны стогн гудзеў.

Не вам, не вам! гасіць паходні,
Што распаліў жывы народ!
І праўда возьме верх нязводне:
Такі ўжо сонца вечны ход.

**1909 г.**

## Чужым

Мы вас прынялі хлебам і соляй,
Людзі чужыя;
Ўстрэлі вас ласкай нашага поля
Кветкі жывыя.
Нашы сасонкі шумнага бору
Далі вам хаты,
Далі загонаў нашых разоры
Гонар багаты.
Пух і аўчынкі нашага хову
Грэлі зімою,
Птушкі вам гралі з нашай дубровы
Гімны вясною.
Ценем тулілі вас у спякоту
Нашы чарэсні,
Нашыя жнейкі ў жніўну работу
Пелі вам песні.
Вашым патомкам нашыя маткі
Казкі складалі:
Ў сэрцах дзіцячых праўдаў пачаткі
Сеў засявалі.
Верны славянскім спадкам,
браточна
Ў госцях вас мелі,
І шанавалі людска, святочна
Ў будні, ў нядзелі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сотні лет песцім днямі і ночай
Госця на шыі –
Змея, што з пуняў скарбы валоча,
Скарбы чужыя.
Вы ўжо забылі, людзі здарэння,
Дзе ваш прыпынак, -
Вывелі ў гандаль славу, сумленне –
Праўду на рынак.
Слепа зракліся сораму, ўвагі,
Ў хорамы селі,-
Брацціям жа ўздзелі лапці,сярмягі,
Торбы надзелі...
Людзі чужыя! Хтось калісь зліча
Вашу нам шкоду:
Зліча праступкі... к суду пакліча
Крыўда народу.

**1912 г.**

## Заява Сакратарыяту ТБМ
### *“Аб захаванні рэлігійнай талерантнасці ў Рэспубліцы Беларусь”*

Таварыства беларускай мовы звяртаецца да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі з прычыны таго, што без грамадскага абмеркавання і без уліку заўваг і прапаноў вернікаў розных канфесій былі прынятыя ў першым чытанні істотныя змены ў Закон “Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый”.

Сутнасць гэтых зменаў адмаўляе штатвекавую рэлігійную талерантнасць беларускага народа і можа прывесці да непаразумення ў беларускім грамадстве на рэлігійнай глебе. Незразумела, чаму для стварэння суполкі любой грамадскай арганізацыі, у тым ліку і партыі, дастаткова трох чалавек, а для вернікаў гэтая лічба падвышаецца з 10 да 20 асобаў. У законе нічога не сказана аб абавязковым вяртанні вернікам забранай бальшавікамі маёмасці альбо выплаце дзяржавай кампенсацыі за панесеныя страты.

ТБМ як арганізацыя, якая аб'ядноўвае вернікаў розных канфесій, што звяртаўцца да Бога на роднай беларускай мове, прапануе на працягу лета правесці грамадскае абмеркаванне новай рэдакцыі гэтага Закона у сродках масавай інфармацыі.

Мы лічым неабходным на ўзроўні Закона падтрымаць выданне рэлігійнай літаратуры, часопісаў і газет на беларускай мове шляхам вызвалення ад падаткаў на друк і распаўсюджванне.

Мы спадзяёмся, што дэпутаты Палаты прадстаўнікоў разумеюць неабходнасць захавання і працягу традыцый свабоднага і раўнапраўнага развіцця ў Беларусі розных веравызнанняў.

**27. 06. 2002 г.**

## Заява Сакратарыяту ТБМ
### *“Аб падтрымцы журналістаў газеты “Пагоня”*

Таварыства беларускай мовы выказвае сваю салідарнасць з тымі, хто асуджае несправядлівы судовы працэс і беспадстаўны прысуд, вынесены 24 чэрвеня 2002 г. судом Ленінскага раёна г. Горадні галоўнаму рэдактару незалежнай беларускамоўнай газеты “Пагоня” Міколу Маркевічу і журналісту Паўлу Мажэйку.

Сакратарыят ТБМ выказвае сваё захапленне мужнасцю, грамадзянскай пазіцыяй і свядомай беларускасцю “пагонічаў”.

Мы патрабуем ад вышэйшых судовых інстанцый адмяніць неабгрунтаваны прысуд і спыніць мэтанакіраваны пераслед беларускамоўных выданняў, які стаў відавочным не толькі для саміх беларусаў, але і для міжнароднай супольнасці.

**27.06.2002**

# Дзеці малююць Купалу

*У Лідскім гістарычна мастацкім музеі прайходзіць выстава дзіцячага малюнка прысвечаная 120-годдзю з дня народзінаў народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. На выставе каля сотні малюнкаў купалаўскай тэматыкі.*

*З Купалаўскай фанатэкі*

# З Купалам у сэрцы

Словы Сяргея Папара — Музыка Міколы Яцкова

Стрымана (♩=92)

Мы жы - вём на зям - лі, дзе ма - літ - вы кры-
- ло да Ку - паль - скай кры - ні - цы з на - дзе - яй пры-
- па - ла. Нас на - ве - даў Ку - па - ла – свят - ло а - жы - ло:
пра - мя - ніс - та - му Сло - ву ма - ліў - ся Ку-
- па - - ла. Пры - ту - лак лю - бо - ві - ку - па - лаў - скі
Дом. З Ку - па - лам у сэ - эр - цы,
з Ку - па - лам у сэр - цы жы - вём.

Мы жывём на зямлі,
Дзе малітвы крыло
Да Купальскай крыніцы
з надзеяй прыпала.
Нас наведаў Купала –
святло ажыло:
Прамяністаму Слову
маліўся Купала.

*Прыпеў:*
Прытулак любові-
Купалаўскі Дом.
З Купалам у сэрцы,
З Купалам у сэрцы жывём.

Нашай нівы вязьмо
На зажынкі заве,
Вольны вецер напеў
вольных песняў нямала.
І хто быў на зямлі, і хто сёння жыве, -
На Купалу глядзіць. Нас вітае Купала.

*Прыпеў.*

Мы Айчыны сыны,
Мы сябры, грамада.
Свой пачэсны пасад
зноў любоў адшукала.
Хай жыве Беларусь – як агонь, як вада!
У адвечнай хадзе Беларусь і Купала.

*Прыпеў.*

***Рэдактар Станіслаў Суднік***

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 1. 07. 2002 г.
Наклад 2500 асобнікаў. Замова № 1272.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.